жое НКВД, многія Беларусы індывідуальна, што выслужыліся перад чужой партыяйі НКВД і заслугоўваюць назвы квісьлінгоўца, згодна дэфініцыі БСЭнцыкляпэдыі.

ТРЭНТОН, З.Ш.А. На пачатку гэтага году, па ініцыятыве сп. Якуба было падшукана памешканьне, для Белар. Прав. Царквы у славянскай сэкцыі Трэнтона. Сп. Якуб навязау сувязь із Белар. Грэкаправ. Царквой і яе актывам у Саут Рывары. За кароткі час была царква і быу сьвятар, але ня было прыхажан. Посьле пару службаў Саўтрыварскі актыу перастаў падтрымоўваць царкву бяз прыхажан.

Сп. Якуб зьвярнуўся да БАПЦ прыходу у Гайланд Парку каб адну недзелю служылі богаслужбу БАПЦ а другую грэка–праваслаўныя із БЦР у Саўт Рывэры. На гэную апошнюю прапанову ніхто не адгукнуўся. На думку напрашваецца само. А што каб тут арганізавалі прыход бяз іх. Можна быць пэўных, што БНРаўска–БЦРаўскі актыў прыклаўбы высілак каб зрабіць ,,беларускаю справу'' падобную на Чыкага альбо Белэр-Менск. Як разьбіць ёсьць ахвотнікі, дапамагчы арганізаваць вельміж чяжка.

Находзіць на думку наагул паводзіны Беларусаў. Прыехаўшы да Амэрыкі многія прыпыніліся каля расейскіх прыходаў. Калябаранцтва Амэрыканскай Аўтакефаліі із Маскоўскімі атэістамі і бальмавікамі, нармальна павінен быў-бы падняць рэакцыю сярод прыхажан Беларусаў із новых эмігрантаў. Выглядаіць, што большасьць жывець інстынктам хатняй жывёлы. Перапрадалі? Ну штож: памыкалі, пакудакталі, як тыя куры дый прызвычаіліся. Калі беларускіх старых эмігрантаў узялі прапагандай, то новая эміграцыя 30 год таму назад былі сьведкамі бальшавіцкага пекла. Няўжо не час у Вольным Сьвеце, із далярамі ў кішэні пачаць людзьмі звацца?

Заклікаем усіх Беларусаў, ня толькі ў Трэнтоне але і ў іншых гарадах Амэрыкі, пакінуць чужыя прыходы дый арганізаваць Незалежнаю Беларускаю Праваслаўнаю Царкву. Йшчэ адна група партызанскіх прыходаў толькі прыскорыць аб' еднаньне ўсіх Беларусаў.

# ІЗ ЛІСТОУ У РЭДАКЦЫЮ

## ,,БЕЛАРУСКАЕ МОРА''

Ідзець праз прыступ да Балтыцкага мора пераз Каралявец (Кенігсбэрг) і Каралявецкую краіну.

Паказальна, што імкненьне да ,,Беларускага мора'' вынікла ў розных месцах у розных нашых людзёў незалежна адных ад адных. У друку найперш выступіў зь ім сп. Ю. Попка на сваёй выданай мапе Вялікалітвы, адлі падаў яго Др. П. Маркоўскі ў ,,Вечу'', трошку пасьлей зьявілася яно ў вартыкуле ў ,,Змагару'' і не пераставала зыходзіць із бачын яго. Перш чымся вынікці ў друку, было гэта імкненьне ў думках і ў сэрцах, ды ня толькі ў гэтта менаваных.

У мінуласьці, за асобных гаспадарстваў вялікалітоўскіх князства Полацкае мела прыступ да мора перазь Лівоню (цяперашняя Латва, Эстоня), ідзе былі два ўдзельныя князствы полацкія,–Гэрцыке й Кукейнос,–а жыхарства дальшых прасьцягоў, аж да Рыскае затокі, плоціла дань Полацку. З усяе гісторы, аж да прагалашэньня незалежнаьці Латвы 1918г., гэта быў найлепшы час Латышом а Лівам. У сярэдзіне шаснанцатага стагодзьдзя, як Лівонскі ордэн прылучыўся да Вялікалітвы, ізноў адчынілась дарога Дзьвіною да Балтыцкага мора.

Вялікалітоўская рэспубліка, Вялікі Пскоў, даходзіла да Фінскае затокі. Балтыцкага мора Пскоўскім а Чудзкім возерамі, адлі ракою Нароваю, каторае правы бераг належыў да Пскова. А як Вялікапскоўская рэспубліка была протэкторатам вялікалітоўскім, зн., чатырнанцатага а пятнанцатага стагодзьдзяў, то таксама із задзіночанае Вялікалітвы гэты гасьцінец ішоў да Балтыцкага мора (пачынаўся ракою Вялікаю).

Па паразе,–галоўна войскам вялікалітоўскім,–Тэўтонскага ордэну ля Зялёнае Дубровы (пад Грунвальдам) 1410г. і прылучэньня собскае Жмудзі да нашага гаспадарства, яно даходзіла да Балтыцкага мора пераз зямлю Жмудзкую.

У сваім часе паўночныя берагі Чорнага мора, ад утоку дняпра да утоку Дунаю, належылі да Задзіночанага Гаспадарства Вялікалітоўскага. Было гэта звыш стагодзьдзя, да 1484г., калі адабрала іх ад нас Турэччына, справакаваная польскаю палітыкаю Казімера Ягайлавіча. Праз Чорнае мора, адылі, мы ня патрабуем думаць. Наш кірунак на паўночны захад.

Цяпер пэўне ж можна толькі лятуцець праз ,,Беларускае мора''–Каралявіцкую краіну: але як будзе Вялікалітва незалежнаю, тады за Каралявіцкую краіну, разам із Караляўцом, давядзецца змагацца. Ня шкодзе, калі прыгатова пачнецца адгэтуль. Хто мае права на Каралявецкую краіну? Прэтэнсю на яе могуць мець толькі Вялікалітва й Жмудзь. Карэлявецкая краіна – зямля цяпер няіснуючых Прусаў, балцкага плямені. Прусы ня ўвыйшлі да складу народу вялікалітоўскага, як і да жмудзкага, але яны свае былі тым Балтам, што сталі субстратам народу вялікалітоўскага. А Вялікаліцьвіны большыя, Балты, чымся собская Жмудзь, у каторй шмат крыві фінскае. У Аўкштоты троху болей балцкага элемэнту, чымся ў Вялікалітвы, але мы маем тую перавагу, што цяперашняе жыхарства Каралявецкае краіны, пераселенае із СССР, дарма што ў бальшыні зрусыфікаванае, але этнічна й часьць яго этнографна вялікалітоўскае. А што да гаспадарскіх патрэбаў, то тут ніякі край ня можа раўнавацца зь Вялікалітвою.

*Максім Прынскі*

*РЭДАКЦЫЙНАЯ ЗАЎВАГА. Хачу паясьніць, што ў сакавіку 1971 года, на вокладцы „Веча" была выдрукавана Беларуская этнографічная мапм із палітычнымі межамі за апошняе паўстагоддзе. Ад мапы выдадзенай сп. Попка ў 1971 г. яна розьніцца ўсім, за выключэньнем выхада да Балтыцкага мора.*

*У 1964 г. на рэзорце Бэлэр Менск у ЗША, рэдактар „Веча" (ня ў той час) ад сябе зрабіў выстаўку мап Беларусі, якія мелі хоць якое дачыненьне да Беларусаў і нашае тэрыторыі. Было пастаўлена тры мэты.*

*1. Прыпомніць беларускім палітыканам, асабліва тым, што сябе называюць навукоўцамі, што ўжо час знаць тэрыторыю свайго народа. Ужо найвышэйшы час каб перастаць партызаніць і гандляваць на мапах тэрыторыі Беларускага Народа.*

*2. Паказаць Беларусам, як самы Беларусы із вельмі вялікімі тэрыторыяльнымі разыходжаньнямі выдаюць Беларускія этнографічныя мапы. Большасьць наведвальнікаў заўважылі, што чужынцы (расейцы) паказалі Беларускую моўную тэрыторыю большай, як самы Беларусы.*

*3. Падрыхтаваць апінію сярод Беларусаў да новых і гістарычных межаў нашага народа. Былі падабраны гістарычныя мапы, якія паказвалі тэрыторыю заселеную Беларускімі плямёнамі. Тэрыторыю гэтых плямён я абазначыў мяжой ізнашымі суседзямі, што выглядала ў тры разы большай, як БССР. Чамусьці многа людзей немаглі зразумець, што Беларускія плямёны засялілі ў гісторыі так вялікую тэрыторыю а сёняшняя Беларусь ёсьць так маленькая. Найбольш зьдзівіла, што Беларусь даходзіць да Балтыцкага Мора. Калі было вытлумачана, што Беларкская Прыбалтыка гэта крамлёўская палітыка якая засяліла Беларусамі частку бышай Усходняй Прусіі, пагэтаму мы разглядаем гэную тэрыторыю, як сваю. Многія адразуж із страху казалі так: „вы думаіце, што немцам ужо канец," „яны йшчэ вылезуць," „іх трэба баяцца," і г. д.*

*Беларусы павінны быць падрыхтаванымі, мусім зрабіць усё магчымае каб Беларуская Прыбалтыка стала Беларускай.*

ДА ПАЛІТЫЧНАЕ ПАРТЫІ. Пад такім загалоўкам у „Веча" №1(15) быў выдрукаваны заклік сп. Рупатлівага. Для рэдактара „Веча" заклік меў здаровы зьмест. Пагэтаму ў №2(16) „Веча" мы выдрукавалі гэты заклік у ангельскай мове, памылкова не падпісалі прозьвішча, хто пісаў гэты заклік.

Каліж мы атрымалі першыя дзьве працы праграмы то яны выгледаюць больш на звычайны артыкул да праграмнай ідэі. Уягоня хопіць жыцьця каб у такі спосаб апісаьь праграму для партыі. Із гэтай прычыны рэдактар „Веча" ня будзіць друкаваць праграму спадара Рупатлівага, хіба што аўтар праграмы прапануе штосьці новае.

*Рэдактар „Веча"*

Ян Пятроўскі

*Экстракт з Уводзінаў да чарговага выданьня дыялёгаў Плятона*

# ДУХОВА – ПАЛІТЫЧНАЯ ПРАГНОЗА

Чытаючы Плятона, родзіцца думка духова–палітычнае прагнозы, якую можна выразіць наступна:

Дзяржаўнае жыцьцё дадзенага народу жыве і падтрымліваецца пры жыцьці ягонаю інтэлігэнцыяю. Увесь сакрэт, здаецца, гэтага жыцьця–гэта прадбачлівасьць інтэлігэнтных людзей, у якім напрамку будзе ўкладвацца агульна людзкае жыцьцё, якія мецімуць месца ў гэтым жыцьці тэндэнцыі, якія ідэалягічныя напрамкі будуць надаваць вартасьць гэтаму жыцьцю. Інакш кажучы, павінны быць наяўнымі здольнасьці ў адхіленьні, да пэўнае ступені, заслоны выдарэньняў прышлых стагодзьдзяў; як жыцьцё народу будзе ўсуадношвацца да іншых народаў. Калі прадбачаньне сягае некалькі стагодзьдзяў наперад–тады мы можам гаварыць пра жыцьцяздольнасьць дадзенага народу і ягонае інтэлігэнцыі.

Гісторыя чалавека пастарчае безьліч пацьверджаньняў гэтага.

Сам Плятон пакідае нам выняткавы прыклад. Ён ня толькі перакананы, ён ведае, што тое, штó ён апавяшчае, будзе неабходнасьцю для прышлых пакаленьняў, калі толькі пакаленьні гэтыя захочуць астацца на ўзроўню свае індывідуальнасьці, свае годнасьці, і свайго духовага і матэрыяльнага прагрэсу, а што зьвтуль выцякае–свае свабоды. І гэта якраз і ёсьць тое, штó чыніць Плятона і вялікім, і несьмяротным, і першым з паміж вялікае пляяды думаньнікаў. Пасьля Плятона, выражаючыся агульна, прыходзіць хрысьціянства. Эвангелі закранаюць зьявішчы з жыцьця чалавека прынцыповага характару з галіны этыкі. Гэта значыць, гэтакія зьявішчы, якія трывацімуць, праўдападобна, гэтак доўга, як доўга будзе існаваць на нашай плянэце род людзкі.

У шаснаццатым стагодзьдзі на гарызонце культурнага сьвету паяўляецца манах, Марцін Лютар, які ў прадбачаньні, калі гэтак можна сказаць, спросу прадукту між народамі,імкнецца завярнуць людзей да тых жаролаў, успомнутых вышэй, зь якіх выцякае квінтэсэнцыя самогы духовага жыцьця.

Людзі, якія, сярод іншага, дарогаю адслоны спадчыны клясычнага сьвету, запачаткавалі ў пэрыядзе паміж чатырнаццатым і шаснаццатым стагодзьдзямі, былі далёказыркімі. Твор іхны, хоць і абмежаваны адрэзкам часу, фактычна трывае і жыве ў нашых днях. Бо асьвета і роўнасьць між людзьмі астануцца зь імі назаўсёды.

У гэтым пэрыядзе часу інтэлігэнцыя дадзенага народу стануло перад гістарычнаю адказнасьцю. Тыя народы, інтэлігэнцыя якіх знайшлася на ўзроўню прадбачлівасьці, занялі ўсьвеце культурным сваеасаблівую пазыцыю. Зноў–жа там, дзе гэткае прадбачлівасьці не назіраем, спасьцярожнай стаецца лінія распадзелу народў. На адной старане, ўхапіўшы мамэнт духовага прагрэсу, знайшліся гэтакія народы як: Францыя, Нямеччына, Англія, Скандынаўскія краіны, а пазьней Паўночная Амэрыка...На іншай старане іхным супроцьлежным эквівалентам знаходзяцца такія, як Гішпанія, Польшча, Вялікае Княжства Літоўскае, пазьней Лацінская Амэрыка і рад іншых краінаў.

Калі ідзе гутарка пра Вялікае Княжства Літоўскае, характэрна тут аццеміць дзейнасьць прагрэсыўнага Доктара Францішка Скарыны з Полацку, якая кіруецца ў напрамку духовага падняцьця свайго народу. Вымоўным Фактам тут зьяўляецца тое, што дзейнасьць Скарыны прыпадае на час рэнэсансу і рэфармацыі на Захадзе.

Усе існуючыя да нашых дзён выясьненьні што да самое дзейнасьці і асобы Скарыны, прадпрынятыя небеларусамі як і беларусамі, ня прывялі да аканчальнага выясьненьня характару асьветніцкае працы вучонага. Духовы Скарына ўсё яшчэ для нас астаецца неразгаданым Сфінксам. У працэсе аналізы гэтае дзейнасьці, стаецца ясным, што дзейнасьць Скарыны, якая сваім зьместам сягала будучыні /9/, не знайшла ўзнаньня са стараны свайго

народу. Сягоньня мы яшчэ ня ведаем дакладна якога роду была апазыцыя да натугаў доктара, але яна была. Скарына памер насамоце і забытым, гэтаксама як і забытай сталася ягоная спадчына. І патрэбнымі сталіся яшчэ чатыры стагодзьдзі, стагодзьдзі поўныя заняпаду агульнае ў народзе асьветы, паніжэньня і амаль—што ліквідацыі нацыі, каб нарэшце ацаніць асьветніцкую працу суродзіча з Полацку. Але гэта толькі рэторыка. Усё паказвае на тое, што ў пэўных колах беларускае інтэлігэнцыі XX стагодзьдзя гістарычная лекцыя не займела амаль ніякага практычнага значэньня.

І слушна, як нехта з разумных людзей сьцьвярджае: немагчыма для нацыі быць адначасна і беспрасьветнай, і свабоднай палітычна.—„Перадгістарычныя зьверы”, нехта іншы кажа, „затым сягоньня называюцца перадгістарычнымі, бо яны не распазналі або ня ўмелі датарнавацца да тых зьменаў, якія займелі месца ў іхным часе”.

Сягоньня, як і раней, вымагаецца ад кажнае інтэлігэнцыі здольнасьць прадбачыць. Калі мы хочам стацца тым, чым стацца мы жадаем, мы павінны прадбачыць, які ідэялягічны прадукт меціме запатрабаваньне, скажам, дзьвесьце гадоў ад сягоньне. Гэта можа для каго—небудзь гучэць як жарт, але мы далёкія ад жартаў. Бо,у залежнасьці ад нашае прагнозы і ад нашае паставы, якая будзе выплываць з гэтае прагнозы, гэтак будзе ўкладвацца нашая будучыня, і гэтак будуць ацэньваць нас тыя, ад ацэны якіх мы будзем залежнымі яшчэ доўга.

Прагноза, пра якую ідзе гутарка—гэта ня ёсьць тое, штб можна бачыць у картах варажбіткі ці выяўляць выліты ў ваду воск. Прагноза, у дадзеным выпадку—гэта веда, мудрасьць і этыка ў спосабе жыцьця і паступаваньня ўзятыя разам. Гэта яны вядуць да тае мудрае палітычнае прагнозы, якая абясьпечвае правільны пагляд на жыцьцё, радасьць і шчасьце гэтага жыцьця.

Можна, здаецца, зусім пэўна сказаць, што памыляюцца тыя адзінкі з пасярод нас, і разам зь імі гэтак званыя культурныя арганізацыі, якія сягоньня цьвердзяць, што мы павінны вярнуцца да мінулых дзён нашых бацькоў. Бязумоўна, якая—колечы мінуўшчына была нашых бацькоў, мы заўсёды будзем паважаць тое, штб вязалась з паняцьцем перакананьня нашых прашчураў, якое адлюстроўвае людзей, месца і час, настроі і культурны ўзровень.

Памятаючы пра гэта, мы ніколі не павінны забываць, што песьня пра беларускія лапці, хоць і ўложана прыгожымі словамі і з цудоўнаю мэлёдыяю, ёю беларускі народ у лапці мы не абуем. Нашыя бацькі і прабацькі любілі выгравацца на цёплай печы, але мы, сягоньняшняе пакаленьне, і, у вапрячонасьці, моладзь гэтага пакаленьня, на печ не палезем. Мы хочам правесьці наш час у канструктыўнай працы, каб адрабіць тое, штб бацькі нашыя, пад уплывам нямудрае інтэлігэнцыі, згубілі.

Гэта ёсьць выснаў з гістарычнае лекцыі, і гэтакія думкі родзіць у нас Платон.

Зьмены, якімі перанасычаны наш час—вялікія і крочаць гіганцкімі крокамі. Псыхалягічным зьявішчам ёсьць, што кажная зьмена, у розумах старшых людзей будзіць вострую рэакцыю. Мы разумеем, што зьмены падобнага роду заўсёды былі балючымі для многіх людзей. Людзі гэтыя заўсёды падтрымлівалі старое перакананьне, уцякалі ў лясы перад надыходзячым новым, тулілі да грудзей нейкія, ім толькі ведамыя, сьвятыя знакі, узіраліся з паднятымі вачыма ўверх у перакананьні, што хутка зыйдзе ангел з палаючым мячом, які паразіць усё новае. Але паражэньне ня прыйшло, і ўсё паказвае на тое, што, праўдападобна, ня прыйдзе хутка. Поступ сярод людзей—гэта арганічны поступ самога жыцьця. Яго ніхто ня зьменіць, яго ніхто не аджане.

Усё, што астаецца верным учарашняму дню—гэта падпарадкавацца жыцьцёвай няўхільнасьці і перайсьці да карыснае працы, што выплывае з пазытыўнага спосабу думаньня, а ўдзячнасьць народу будзе запоўнена.



# БЕЛАРУСКАЯ ГРЭКА ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА І ЯПІСКАП

Студзень 1973 года быў сапраўды сьцюдзёны для Беларускіх грэка праваслаўных прыходаў і гарачы для многіх прыхажан.

Сьцюдзёным зрабілі тыя, хто замарозіў, зрабілі сакрэтам ад прыхажан гэтых прыходаў праблему высьвячэньня архім. Язэпа ў сан япіскапа. „Прыяцелі" беларусаў пастараліся і на гэты раз „дапамагчы" Беларусам. Усякія слухі пачалі хадзіць. „Ен яго не дапусьціць." „Яны гавораць адно а там робяць даносы." і г. д. Рэдактар „Веча" навязаў гутарку із некалькімі „фюрарамі" і важачкамі. На запытаньне: ці знаіце, што архім. Язэп пакідаіць Торонто і ад'ежджаіць, былі наступныя адказы: „яго ніхто не запрашаў на япіскапа,"„хочыць няхай едзіць," „ён не надаецца на япіскапа." Адзін із сьвятароў адказаў так:„мы маем аднаго Лапіцкага–пашто нам другі."

У між часе сьв. Лапіцкі меў параліч(stroke) У Саўт Рывары некалькі людзей узялі справу парахвіі вельмі сур'ёзна. А трыманьне ў сакрэце ад парахвіян ад'езд архім. Язэпа нават узбурыла некаторых. Многія задумаліся над такім пытаньнем: калі гэты раз ня будзем мець свайго япіскапа, тады хто знаіць калі гэта будзіць магчыма зрабіць? Да гэтага існуець недавер да кваліфікацыі ў сьвятары новавысьвечанага дзьякана.

Гераінямі ўсей гэнай драмы сталіся спадарыні Гайшун і Бахар. Спадарыня Гайшун із мужам рашылі паехаць у Торонто і прывезьці архім. Язэпа да Саўт Рывара. Спадарыня Бахар падняла акцыю подпісяў прыхажан у Саўт Рывары. Здаецца, што акцыя ўзяла ўсяго дзьве гадзіны, як наперагонкі акцыі сьв. Лапіцкі із жонкаю пачалі прасіць архім. Язэпа аб прыезьдзе да Саўт Рывара. Заактывізаваліся важачкі, групэнфюрэры і іх фэртрэтары, якія маюць фюрарскія амбіцыі. Ік гэтаму часу выбухнула праблема продажы старой царквы ў Саўт Рывары. Хаця „фюрары" і хавалі, аднак прыхажанам стала вядома, што прадаць старую царкву бяз подпісі грэцкага япіскапа ёсьць немагчыма. Як так, „фюрары" тлумачылі 20 год, што царква запісана на прыхажан дый ёсьць іх собскасьцю а тут збылося тое, як крывічы казалі: ваша царква ёсьць собскасьцю грэцкага япіскапа, так як іў каталікаў (хаця у іх самых украінец меў пару дзесяткаў год іхнія прыходы).

Нядзеля 4 лютага 1973 года, агульна гадавы сход царквы Сьв. Еўфр. Полацкай у Саўт Рывары. На парадку дня 10 пунктаў, 11 прапанова, як вольная. Прыхажане ставяць на парадак дня праблему япіскапа (між іншым сьв. Лапіцкі на гэты час забраў арх. Язэпа і ўцёк да Трэнтона). „Фюрары прапануюць гэтае пытаньне прадыскутаваць у вольных прапановах. Знаючы старага коніка „фюрараў", прыхажане перагаласавалі і паставілі пытаньне япіскапа на парадак дня, што ўзбурыла „фюрараў" і тых, што вельміж закаханы ў „дапамаговы" камітэт. Нязьменны сакратар Сенько адмаўляецца быць сакратаром схода; Занкавіч, Даніловіч пакідаюць сход. Старшынёй схода быў абраны інж. Бахар. Супроць кандыдатуры арх. Язэпа ў Япіскапы пратэставалі Іван Касяк,Шчорсы. Адзін із быўшых „міністраў„ Астроўскага папярэдзіў сход, што калі ня будзіць свайго япіскапа то ў міжчасе БАПЦ навяжыць кантакт із грэкамі, тады наша царкоўная справа будзіць горш. Самым назойлівым гэта быў Іван Іванавіч. Нявытрымаў і старшыня сходу, які прыпомніў зьбянтэжанаму фюрару: „мы вас слухалі дваццаць год, хопіць." Нявыцерпела і адна жанчына, якая папярэдзіла Івана Касяка, што наступны раз яна абліець яго кіпячай вадой; калі ён будзіць лазіць да Саўт Рывара далей і мешацца ў царкоўныя справы. Былі „камплименты" і для „уладыкі" із Олд Брыдж Турнпайка. Сапраўды, заслужана і „ганарова" „фюрарам" у собскім карыце да чырвона панацірали пыскі. 4 лютага 1973 года, гадавы сход Беларускай грэка праваслаўнай царквы ў Саўт Рывары пастанавіў зрабіць захады каб чатырма БЦРаўскімі прыходамі апекаваўся свой беларускі япіскап. Цікава, што на гэтым сходзе быў вялікі энтузіязм за аб'еднаньне ўсіх беларускіх партызанскіх прыходаў

На пачатку паста (перад Вялікаднём) быў сабраўся актыў праваслаўных прыходаў БЦР із Квінса (Н.Ю.) і Саўт Рывара. Невядома на якіх падставах былі дабраны асобы да камітэта, лепш яго было-б назваць неафіцыяльны БЦРаўскі „япіскапат" які звычайна выбіраецца на з'ездах БЦРаўскіх палітыканаў ад чатырох прыходаў на Паўночную Амэрыку. Тыя што пратэставалі каб мець свайго япіскапа ня прыйшлі на гэты сход, ня было галавы і большасьці сяброў гэнага неафіцыяльнага япіскапата. Бяйну якую прадбачылі на гэтай зборцы ня бы-

ло. „Фюрары" пайшлі на новую тактыку. На зборцы пастанавілі прасіць Яп. Апанаса каб ён пагадзіўся апекавацьь чатыры БЦРаўскіх прыходы грэцкай юрысдыкцыі. У міжчасе людзі гадаюць. Адны ёсьць пэўнымі, што гэты раз Яп. Апанас далучыцца да Беларусаў із БЦР. Іншыя вельмі пераканана кажуць, што так доўга, як сьв. Лапіцкі будзіць каля гэтых прыходаў, так доўга Яп. Апанас не паедзіць да Саўт Рывара. Час пакажыць, хто ўгадаў.

Саўт Рывар гадамі кіруецца прынцыпам фюрарства: г. зн. „масам ня можна давяраць, ня гледзячы на яе складовую частку"( із прамовы проф. Астроўскага на гэтак званым другім кангрэсе). Гэты раз „масы" разгадалі,што „фюрарам" каноны патрэбны для далейшага царкоўнага разладу сярод Беларусаў. „Фюрарам" так цёпла і бясьпечна пачуваіцца каля „дапамаговага" і кангрэсовага камітэтаў, што яны не жадаюць мець свайго япіскапа. „Безадказныя масы" разгадалі, што прыходы будавалі за беларускія грошы а гаспадарамі сталі чужыя япіскапы. Рэзультат прынцыпа фюрарства, які быў прагалошаны на так званым другім кангрэсе, можна падсумаваць наступна: „фюрары" завялі а „безадказныя масы" ня гледзячы на яе вартасьць і складовыя часткі мусяць выцягваць воз.

Хай вам Бог дапаможыць!!!

Рэдактар

---

## РЭЦЭНЗЫЯ

Праўда сп. Пануцэвіч напісаў яе для украінцаў, але нібы такі рэфэрат чытаў беларусам асьцерагаючы нас перад украінскім "імпэрыялізмам„ і як аказалася, мы ўжо не маем ніякіх прыяцеляў праз тую вунію, якой усе стараюцца заасыміляваць народ хаця і мае ён сваю слаўную гістрыю з вуніямі ці без іх і жыве ён яшэ ў XXст.

Штож, пакуль існуе яшчэ ў нас вольная прэса – трэба падаць яе чытачам і гэтыя весткі бо апрача фізычных ворагаў у нас маецца шмат навокал усякіх гістарычных хвальшаў, якія ня менш абяссільваюць наш народ каб ён не быў сам сабою – вольным Перадусім, з названае кнігі, трэба запярэчыць той навуцы, што ўсе вуніі рабіліся для дабра беларускага народу каб яго абараніць „з двох бакоў„ як гэтыя „бакі" толькі і знаці тое каб большую частку Беларусі прыгарнуць да сябе, а яе дзеячы часта хілйся на бок сільнейшага як гэта было ў 1569 г. і ў 1596., ба нават 1839 і 1920.

Можна было-бы і ў гэтай справе напісаць асобную кнігу, але шкада часу і атласу як ужо Рым–Ватыкан сам у сабе перасіліўся і яго меч абасечны зусім ступіўся, а Полшча ў пух разбіта, што ўжо і езуіты не могуць даць рады, як і ў Гіспаніі дабіліся талеранцыі не толькі для хрысьціянаў. Болш пасавал-б прамаўчаць аб пісаніне Пануцэвіч але, што нашых вуняты сварацца з украінскімі за неякую спадчыну 1596 г. і стараюцца некага пацешыць з нашых дзеячоў, бяспрэчна вунятаў, дык трэба сказаць і нам, што ў нас праваслаўных не зьвяліся яшчэ ані Налівайкі, ані братчыкі Сьв. Духа, і як патрэба будзе, паўторым тое самае змаганьне за сваю першабытнасьць, вечавой пары.

І другі хвальшя заўважыў у кнізе Пануцэвіч дзе ён падкрэсьліў, што дзякуючы рэлігійнаму ўплыву вуняцтва нават межы БССР устанавіліся для беларусаў, што вуняты так былі беларусамі. Што былі дык былі і без вуняцтва яны ёсьць, а чаму Беласточчыну недалучылі да БССР дзе яшчэ больш было вунятаў і іх польскія дзеячы неяк у канцы 18 стг. загналі ў рым-польскі касьцёл, а падчас перасяленьня ў 1945 г. і з БССР пераехалі ў Польшчу, што яшчэ ў 1839 г. перашлі ў каталіцтва, дык ці не былі яны беларусамі? А каб так усе зрабілі дык Беларусь была-б без беларусаў. –Вось вам і стойкасьць вунятаў у беларускасьці. Каб

яны былі так моцнымі беларусамі ці літоўцамі дык можа і цар Мікалай не адважыўся-б ліквідаваць тую вунію, а як яна была не рыба не мяса, што мусяў мітрапаліт Булгак асобны выдаць загад 1824 г. каб вуняцкія сьвятары гаварылі казаньня сваім вуняцкім вернікам зразумелай ім мовай і, мне думаецца, што простыя вуняты былі беларусамі, а іх духавенства так ужо было апалячаным, што яны не маглі адны другіх зразумець, як быў патрэбны такі загад. Вось вам і доказ як баранілася вуняцтва „з двох бакоў" каб быць беларускім.

Аб тым, што вунію 1596 г. зрабілі беларусы—літвіны як і 1569 г. даказваць трэба украінцам. Мы беларусы дакладна ведаем, што яе беларусы і 1839 г. зліквідавалі такім спосабам як яе зрабілі ў 1596 г. пры ўдзеле дзяржаўнае ўлады і няма тут лепшых ці горшых дзеячоў „сьвятых Кунцэвіча" ці здраднікаў "Семашкаў". Уся справа ў тым, што сучаснаму Пануцэвічу хочацца таго чаго ўжо быць не можа і тое робіцца нашто мы не маем ніякае сілы адменіць як падзеі ідуць так, а не іначай.

І навошта сп. Пануцэвіч здалося тое вуняцтва як мы ў недаўным столькі страцілі рымакатолікаў не толькі з Беларусі але і беларусаў, і яшчэ маем Беласточчыну дзе іх сяк-так можна ўтрымаць пры беларускасьці — і нічога там не робіцца ў гэтым напрамку, ба нават такія мудрацы не маюць сувязі із старымі эмігрантамі р—каталікамі па нацыяналынай лініі з так беларускае Віленшчыны, якія нават прыгожа гавораць па—беларуску, а толькі „польскае веры". Не так маюць украінцыдык спары ім Божа!

Кніжка сп. Пануцэвіч напісана паводле яго характару, а такіх у нас вельмі мала беларусаў. Ен кіруецца „блыскоткамі" а не Праўдай, ці дэмакрацыяй. Хоча пераканаць у тым, што як неякую справу робяць знатныя дык трэба прыймаць яе без засьцярогаў. Напрыклад, Берасьцейскую вунію праводзіў кн. Сапега і кароль Ваза, Рым ды іншыя сьвяціла, дык як з ёю не згадзіцца, янаж Беларусь уключае да „ заходняе культуры" не гледзячы што яна выдумала інквізыцыю, камунізм, крэматорыі, усякія атамовыя бомбы, нават сэкту сатаністаў не толькі так модных у сучаснасьці гіппі больш хітрэйшых ад савецкага пралетарыяту. Культура цяпер менш агранічана дык і Беларусь можа яе здабыць без так трагічных вуняцкіх пераменаў. І я дзіўлюся, што сп. Пануцэвіч з неякой пахвалой і заслугай, мучэньне нашага народу вуніямі, прыпісвае дзеячам 1596 г. пасьля якога прышоў і 1697г. у якім, такія дзеячы, беларусам адабралі ім і родную мову і праз вуніі паднясьлі чужацкую. Праўда, і з расейцамі ў „саюзе" не было ды ні ёсьць іначай. Але і папа рымскі не ўратуе наш народ ад бяды як падобнае дзеіцца з украінцамі. Дык маім поглядам ня трэба нам тварыць і непатрэбных „Заользяў".

*А. Асіповіч*

---

## „МАРКОЎНЫ САЦЫЯЛІЗМ", ПА ЗАКАЗУ КРАМЛЁЎСКАЙ РАЗЬВЕДКІ, АПРАЦАВАНЫ ГАЎГАЎ ЦЮЦЬКЕВІЧАМ

Прозьвішча чалавека найбольш паходзіць ад занятку, паводзін і г. д. у прошлым. Прозьвішча рэдактара „Голпс Радзімы" ёсьць Вацлаў Мацкевіч. Можна дагадвацца, што ў прошлым гэта быў род сьляпых пагэтаму вобмацкам хадзілі, альбо род які праславіў сябе мацюкамі. Як сабе там ня было прозьвішча маіць паталягічнае паходжаньне. Дый працу якую выконваіць Вацлаў Мацкевіч падцьверджаіць, што гэта ёсьць так. Псыхалягічная навука таксама пераконваіцца, што склон да пэўнага ненармальнага акту ёсьць унасьледаваны праз гены. Вось такі элемэнт акупанты і падшукваюць сярод Беларусаў, падвучваюць іх на памфлетчыкаў дый натраўляюць іх супроць патрыятычна думаючых Беларусаў.

„Голас Радзімы" №4, студзень 1973., выдрукаваў памфлет Вацлава Мацкевіча на цэлую бачыну; які спрабуіць зьдзеквацца над зьместам „Веча" і прозьвішчам рэдактара. Загаловак артыкула „Маркоўны сацыялізм" зьвязаны із прозьвішчам рэдактара „Веча" Маркоўскі. Із так вялікага артыкула немагчыма вычытаць дзе-б рэдактар „Веча" мадэляваў, як гэта называіць Мацкевіч. А вымадаляваў яго сам Мацкевіч у байцы пра Канюкову дачу.

У №7 „Веча" за 1970 год, на пятай бачыне, пад аглядамі прэсы–камэнтары была выдрукавана „мудрасьць" із газэты „Беларус", із артыкула „Дэхвальсыфікаваная гісторыя БНР–крыніца маральнае сілы", із сэрыі артыкалаў „БНР паміж варожымі Расеяй і Нямеччынай" Я. Запрудніка. Вось гэты выдрук.

**„Творцы БНР–не апартуністыя, падстаўленыя акупантамі, а тыя, каго разагналі сілаю зброі бальшавіцкія й нямецкія захопнікі–паўстаюць перад намі, як нацыянальныя рэвалюцыянэры, адданыя справе ўжыцёўленьня купалаўскага дэвізу „людзьмі звацца" і БНР-аўскага ідэялу „нацыяй стацца."**

Камэнтар „Веча".

„БНР-аўскі ідэял быў Незалежнай Нацыяй стацца, а не „нацыяй стацца", як вы пішыце. Нацыяй мы сталіся па волі Бога, ад Пскова да Чарнігава ды ад Дона да Нарвы. Мы маем гісторыю, але ўся бяда ў тым, што сёньня ня маем веры. БНР-аўцы 1918 г. былі не нацыянальныя рэвалюцыян., а яны былі нацыянальныя рэвалюцыянэры сацыялісты. На нашу думку такім выразам вы наўмысьля падганяіце на капыл эмігранцкай БНР–незалежнасьць, а потым будзем бачыць. Дэвіз БНРаўцаў 1918 г. „людзьмі звацца" г. зн. жыць ня горш пана, памешчыка; г. зн. яны былі на баку Беларускага Народа. Эміграцкая Рада БНР і БЦР выбралі непредрешенство ў галіне эканомікі, права, пагэтаму ваш дэвіз ня ёсьць „пунктам апоры", які дае магчымасьць зрушваць сьвет, ды ня ёсьць крыніцай „маральнай сілы".

Хачу далей дабавіць.

Янка Запруднік ня быў больш у лягернай гімназіі каб імітаваць Стася Станкевіча. Як гісторык із (Ph.degree) ён павінен быў знаць, што унікальнасьць для БНР гэта ідэя незалежнасьці для Беларусі і яе Народа. Нацыяй мы сталіся, як рэзультат гістарычных, біялягічных працэсаў а ня нейкай задуманай нацыі ў БНР і вырасшай напалёх Балтаславян. Янка Запруднік напэўна знаў, што ў БНР асноўную ролю адыйгралі Беларускія Сацыялісты, найлепш гэтаму сьведчаць граматы БНР. Чаму яму хацелася напісаць проста нацыянальныя рэвалюцыянэры, хіба толькі яму аднаму ведама.

Камэнтар у №7 „Веча" і зацікавіў крамлёўскаю разьведку каля „Голасу Радзімы". Рэдактар „Веча" нічога новага ў камэнтарах не напісаў, а толькі зьвярнуў увагу, як яно было. Напэўна, толькі праўда і ўкалола ў вочы тым, хто паўстагодзьдзя „мадэліруя", як і Я. Запруднік. Мацкевічавы гаспадары „мадэліруюць", што Беларусы нацыяй сталіся па волі Леніна, Сталіна і Расейскага народа; паза БССРаўскімі межамі няма аніякіх Беларусаў; што на сьвеце нічога горшага няма, як Беларускі Патрыятызм. БССРаўскі квісьлінг на службе крамлёўскай разьведкі памфлетчык Мацкевіч, закаханы ў сталінскую „мараль", падпусьціў атруту ў наступны спосаб: **„па мадэлі, выстругана́й Маркоўскім, нацыяй мы сталіся па волі бога" і БНР нічога не хацела, акрамя сацыялізму (хоць бы і на кайзераўскіх штыках!) і маленькага антыімперыялістычнага княства,–усяго „ад Пскова да Чарнігава ды ад Дона да Нарвы."** Простае сьцьверджаньне фактаў у „Веча", Вацлаў Мацкевіч называіць: „мадэлеваньнем", „выстругваньнем", „мадэлеваньнем самых неабчэсаных шыбеніц." Хачу прыпомніць панку Мацкевічу, што гэтыя словы найлепш адпавядаюць крамлёўскім мадэліроўшчыкам Суслову і Леніну, які із ССРБ вымадэліраваў БССР у форме кукіша. Вымадалеваць дзяржаўны капіталізм із манапалізмам у крамлі на сацыялістычна марксысцкіх ідэях маглі толькі расейскія бальшавікі. Нават Маркс папярэджваў, што калі яго ідэі пачнуць мадэляваць расейцы то выйдзіць пшык. Югаслаўскі, Пекінскі і іншыя камунізмы паказваюць, што Мацкевічавы гаспадары „намадэліровалі" аж замнога. Марксава прадбачлівасьць збылася.

Вацлаў ёсьць БССРаўскі інтэлігент із абмяжованай інтэлігентнасьцю–інтэлігент апартуніст. За сваю сабаччую службу, ён сумеў сабе асабіста збудаваць сацыялізм. За такую службу ў Савецкай расеі МВД плаціць вельмі добра. То што Вацлаву ёсьць сацыялізм у БССР нават бачна пры яго спробе зьневажыць расьліну моркву. Такое паняцьце аб моркве мог мецьць чалавек які бачыў толькі калгасную моркву, альбо чалавек які жывець із закрытых ларкоў МВД, дзе ёсьць усякія паласункі.

Гадамі Мацкевічу і „Голасу Радзімы" было лёгка весьці паленіку із сваімі братамі ў "патрыятызме"–паліцаямі і бургамістрамі. Вацлаў зразумеў, а найбольш праўдападобна Петров вызваў яго да сябе ў габінет дый вытлумачыў яму новую небясьпеку. Вунь бачыш, "нейкае„ Веча вучыць Беларусаў не пакладаць больш надзеі на „освободителей" а дзеіць самастойна перагледзіць сваё прошлае каб збудаваць прыгожае будучае. Цюцькевіч не губляючы часу садзіцца на прапагандната паліцэйска–савецкага коніка, гэта значыць калі ня хочыш быць шакалам то я цябе зраблю тыграй але толькі не патрыётам. Ужо напачатку артыкула, Мацкевіч прыводзіць назвы папулярных кніжак на захадзе, дзе вучаць, як абрабаваць банк не разламаўшы замка альбо, як сплавіць бязшумна на той сьвет цешчу і г. д. Набузіўшы ўдоваль, чырвоны памфлетчык Вацлаў паціхоньку паўзець да тэарэтыка–аматара Маркоўскага і яго „худасочнае Веча" дый, як той хуліган–хлапчук пачынаіць квэпаць заказы па сьценках вось так: „З прэтэнзіямі на „бестсэлер веку" выступіў „ маркоўны сацыялізм", выгадаваны беларускімі „нацыянальна–вызвольнымі" эксперыментатарамі і запатэнтаваны ў Цэнтральным разьведвальным упраўленьні Злучаных Штатаў Амэрыкі. Так што мадэль з гарантыяй, хаця яе канструктары пакуль што і не маюць такой славы і папулярнасьці, як сучасныя „літаратары" Роберт Барнес і Родрык Наўліс ці сучасны філосафы" Ражэ Гарадзі і Эрнст Фішар".

То што ў БССР ня толькі „Веча" але ўсякая замежная прэса можыць быць „бестсэлер" мы аб гэтым добра знаем. На захадзе ёсьць усякай прэсы , нават савецкая. Тут людзі чытаюць тое, што ім падабаецца. „Веча" не плянавалася выдаваць, як „бестсэлер" а для таго, каб выказаць тое што не дазваляюць у БССР; тое што не дазвалялі ў Вайсрутэнішэ Гэбітс Камісарыяце; выставіць на сьвятло тое, што хаваюць „Беларус" і „Беларуская Думка". Шчыры і патрыятычны зьмест у „Веча" зрабіў часапіс папулярным.

Зусім магчыма, што часапіс „Веча" зарэгістраваны ў ЦРУ ці ФБІ, толькі не запатэнтаваны і не фінансаваны імі, аб гэтым сьведчыць худы вонкавы выгляд часапіса. Гэта іх абавязак сачыць, што робіцца ў іхняй дзяржаве. Йшчэ перад прыездам Брэжнёва да Амэрыкі мой тэлефон хтосьці так кантраляваў, што былі мейсцы дзе я ня мог датэлефанавацца. Падчас гутаркі па тэлефону, рэкордныя апараты так перашкадаліж гутарыць, што некалькі раз я быў змушан спыніць гутарку. Выглядаіць, што крамлёўскія агенты а магчыма і паліцаі-літаратары( увесь час зьвякаюць, што „Веча" ёсьць на службе савецкай амбасады і ёсьць аддзел „Голаса Радзімы"), незалежна адзін ад другога і зарэгістравалі „Веча" там дзе рэдактар часапіса ня лічыў сваім абавязкам рэгістраваць а тым больш патэнтаваць.

За чатыры гады №7 „Веча" было найменьшае, самае худое вонкава, усяго восем бачын а не худасочнае, як гэта пішыць Вацлаў Цюцькевіч. На адной палавіне бачыны было дастаткова соку каб растварыць атруту некалькіх колераў; і ўзьбясіць зусім супроцьлеглых палітычных „мадэліроўшчыкаў" на службе чужых ідэй!

*Др. П. Маркоўскі*

---


Адрыс: VIECA Address

204 State Highway 18
East Brunswick, N. J. 08816
USA

Цана 50¢ Price - 50¢

Telephone: (201) 249–2255